www.nv-online.info

№ 34 (4081)

3 мая 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Пятно-выводитель

Он один умный, а все – идиоты. Вот как-то так у нас получается, потому что министр внутренних дел Игорь Шуневич, защищая своих подчиненных, рассказывает всем нам невероятные истории.

Некоторое время назад белорусский интернет обошла новость, что милиционеры совершили групповое изнасилование в Могилеве. Факт есть, пострадавшая есть, весь город говорит, что трое насильников – из Ленинского РОВД, а один в тюремной системе работал. А вот министр на голубом глазу успокоил: милиционеры, мол, не настоящие, они – бывшие. То есть понимайте так: никаких дел об изнасиловании в отношении сотрудников внутренних дел Следственный комитет не ведет.

В итоге получилось, что всем нам привиделось еще одно какое-то грязное пятно на милицейском мундире, померещилось.

Странно так получилось. Хитро...

Потому что министр не уточнил, когда он этих «сексуальных хористов» уволил. За пять минут до изнасилования или через пять минут после? Или задним числом? Может, еще каким-то специальным приемом? А еще Шуневич не сказал главного – зачем он это все произносил?

Напомню, что в истории белорусской милиции уже был серийный маньяк и убийца, который, будучи защищенным формой, куражился не один год. Когда все выплыло, был «разбор полетов», кадровые встряски, пара милицейских генералов лишились своих постов. Однако могилевский пример показывает, что выводы из произошедшего система сделала своеобразные. Теперь вместо того, чтобы оправдываться, каяться, разоблачать, обещать впредь не допустить и т.д. и т.п., министр лично пытается замять скандал. Изворотливый генерал!!! Но все же не настолько хитрый, чтобы обмануть всех.

Например, недавно он, прикрывшись законом, можно сказать, разрешил подчиненным профессиональную месть.

Понятие «месть», как вы понимаете, вообще не из области юриспруденции. Но после инцидента с байкером, в результате которого пострадал сотрудник ГАИ, министр признался: «Органы внутренних дел, органы правопорядка никогда не предъявят претензий к законопослушным гражданам. Мы адекватные люди, стараемся адекватно реагировать на складывающуюся ситуацию. Но я скажу вам откровенно и честно: я предполагаю и допускаю наличие профессиональной мести со стороны сотрудников ГАИ в рамках действующего законодательства». Если министр, «допускает наличие профессиональной мести со стороны сотрудников ГАИ», то нетрудно представить, как могут аукнуться эти слова в голове какого-нибудь юного дорожного надзирателя.

Насчет мантры по поводу того, что милиционеры к законопослушным гражданам претензий не предъявят, это – ха-ха! – вся страна наслышана. Но вот «профессиональная месть» – это новое слово в государственном управлении. Потому что дальше может быть месть обиженных медиков милиционерам, месть прокуроров – депутатам, профессиональная месть сантехников – сотрудникам КГБ… И все в рамках закона, потому что даже точное выполнение закона не гарантирует бесперебойную работу канализации.

Что бы ни говорил министр, по сути он косвенно дал своим подчиненным отмашку на конфискацию мотоциклов у байкеров, отмашку на месть. Естественно, сославшись на закон. Неужели и правда думает, что никто ничего не понял, что вся стана – идиоты?!

Ладно, страна! Но идиотами он выставляет и равных по званию.

Напомню скандал, случившийся в суде над философом Владимиром Мацкевичем. Тогда трое милиционеров засвидетельствовали, что Мацкевич участвовал в несанкционированной акции протеста предпринимателей, проходившей в Минске, стоял с плакатом и нарушал закон. В ответ Владимир Мацкевич предъявил собственный паспорт и использованные билеты на самолет, подтверждавшие, что его в тот день не только на площади, не только в Минске, но и в Беларуси не было. Мацкевич находился в Варшаве. То есть милиционеров публично уличили в лжесвидетельстве – уголовном преступлении.

Как отреагировал министр? Слег с сердечным приступом, написал заявление об отставке, хотя бы покраснел от стыда?.. Ничего подобного!!! Он, не смущаясь, заявил, что его подчиненные… просто ошиблись. Трое сразу!!! В один голос!!! Обвинив человека в суде!!! Под заверения, что «органы внутренних дел, органы правопорядка никогда не предъявят претензий к законопослушным гражданам»…

Даже генпрокурор сообразил, что валять дурака в такой публичной и такой очевидной ситуации – это даже для Беларуси слишком. Александр Конюк, комментируя ситуацию с Мацкевичем, признал, что если было лжесвидетельство, то милиционеры должны ответить перед законом. Вот только главный прокурор не сказал, кто их к ответственности привлечет. Пушкин?.. Ведь непосредственный начальник – министр – свою позицию высказал. А что касается прокуратуры, то Владимир Мацкевич еще в конце марта подал туда заявление. Но, видимо, не хватает у Конюка силенок против Шуневича. Говорит одно, а сделать – кишка тонка. В идиотской ситуации оказался.

Впрочем, как и председатель Следственного комитета Иван Носкевич, ведомство которого разбиралось в истории с избиением милиционерами прямо в здании суда журналиста портала TUT.by Павла Добровольского. Шуневич сразу встал на защиту своих. В ответ следователи, не имея карт-бланша возбудить дело, откровенно поприкалывались, запротоколировав «правонарушение» журналиста фразами из анекдотов: «размахивал руками», «не желал успокаиваться», «совершал активные действия телом и ногами»… Одним словом, оформили все так, чтобы любому была ясна суть произошедшего.

Для истории деградации белорусской правоохранительной системы, которая когда-нибудь обязательно будет написана, следователи оставили красноречивый документ. К тому же зафиксировали в нем интересный факт: в деле философа Мацкевича и в деле журналиста Добровольского «на страже закона» стоял один и тот же человек – некто А.А.Шишко. Случайно ли? В какой истории с таким служебным рвением этот милиционер засветится в следующий раз? Как долго этого придется ждать? Как долго министр сможет заминать скандалы, работая пятновыводителем для своей системы? Зачем он это делает? Кому от этого польза?

Вопросов много. Но однозначный ответ один: если Шуневич думает, что он один умный, а все – идиоты, то он очень сильно заблуждается.

РУБАМ!

## Будзе празрысты падлік галасоў?

Пасля нарады на К.Маркса, 38 Лідзія Ярмошына распавяла журналістам, якія зроблены захады, каб выбарчы працэс стаў празрыстым у адпаведнасці з рэкамендацыямі АБСЕ.

*– ЦВК падрыхтуе пастанову, якая будзе абавязковай для выканкамаў, аб парадку фарміравання выбарчых камісій. Гэты працэс павінен праходзіць не толькі публічна, але і дыскусійна. У выпадку конкурсу на месцы ў выбаркамах павінна праводзіцца дыскусія і давацца тлумачэнні, чаму аддаецца перавага на карысць той ці іншай кандыдатуры.*

*– Усе рашэнні, якія выносяць выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў, публікаваць у глабальнай сетцы Інтэрнэт.*

*– Узгоднена ініцыятыва ЦВК аб тым, што ўвесь падлік бюлетэняў будзе праводзіцца на адным баку стала. Назіральнікі будуць мець поўную магчымасць бачыць працэс падліку галасоў. Акрамя таго, назіральнікам будзе прадастаўляцца інфармацыя, якая не прадугледжана арт.13 Выбарчага кодэкса, напрыклад, звесткі пра колькасць выбаршчыкаў, звесткі пра колькасць тых, хто прагаласаваў. Міжнародныя назіральнікі будуць дапушчаны ў акруговыя камісіі пры прыёмцы пратаколаў ад участковых камісій.*

Ці азначае гэта, што нарэшце ў Беларусі адбудуцца выбары, пасля якіх ніхто не ўсумніцца ў іх чэснасці і можна будзе сказаць: "Так, галасы лічылі па справядлівасці". Вось што думае на гэты конт палітолаг **Дзяніс МЕЛЬЯНЦОЎ:**

– У прынцыпе, дзеючае выбарчае заканадаўства дазваляе праводзіць дэмакратычныя і празрыстыя выбары па стандартах, якія выстаўляе БДІПЧ АБСЕ. Была б толькі палітычная воля на самым высокім узроўні. А тое, што агучыла Ярмошына… Трэба ў яе спытацца, што яна мела на ўвазе.

Унесці нейкія папраўкі ў заканадаўства ўжо няма часу, але можна сапраўды змяніць практыку правядзення выбараў. ЦВК, напрыклад, можа прыняць пастанову, якая будзе мець сілу інструкцыі, і прапісаць там пэўныя працэдуры. Бо, прабачце, прыбраць "задніцы", якія закрываюць агляд пры падліку галасоў, – гэта адна справа, і зусім іншае – прадэманстраваць назіральнікам кожны бюлетэнь… Але пра гэта пакуль ніхто не гаворыць. Дый ці гатова да гэтага ўлада? Бо тады празрыста лічыць галасы прыйдзецца і на прэзідэнцкіх выбарах. Аднак, падкрэслю, менавіта адна з ключавых заўваг АБСЕ – патрабаванне забяспечыць назіральнікам магчымасць сачыць непасрэдна за падлікам галасоў на ўчастках.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Кангрэс пад адкрытым небам?

*Мікалай Статкевіч і Генадзь Фядыніч ад імя аргкамітэта па правядзенні Кангрэса дэмакратычных сіл падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на арэнду памяшкання. На 15 мая запланавана правядзенне кангрэса.*

Паводле слоў Статкевіча, у мерапрыемстве возьме ўдзел мінімум 500–600 чалавек. Арганізатары просяць, каб сталічныя ўлады прапанавалі ім любое памяшканне на тэрыторыі Мінска, здольнае змясціць такую колькасць удзельнікаў.

Палітык кажа, што аргкамітэт спрабаваў знайсці памяшканне самастойна, бо ў яго складзе ёсць прадстаўнікі зарэгістраваных арганізацый, якія маюць права праводзіць сходы ў памяшканнях без санкцыі ўлады. Аднак уласнікі памяшканняў адмаўляліся здаваць ім залы ў арэнду. «*Таму мы звяртаемся наўпрост да ўлад: хай яны нам яго дадуць. Калі памяшканне не будзе прадастаўлена, кангрэс будзе праведзены пад адкрытым небам*», – заяўляе Статкевіч.

У аргкамітэт кангрэса ўваходзяць такія вядомыя грамадскія дзеячы, як Мікалай Статкевіч, **Уладзімір Някляеў, Станіслаў Шушкевіч, Зміцер Дашкевіч, Вячаслаў Сіўчык, Андрэй Саннікаў,** Генадзь Фядыніч і **Міхаіл Пастухоў**.

УВАГА!

## Працягваецца месячнік «Далучайцеся да «Народнай Волі»!»

У чарговы раз рэдакцыя звяртаецца з просьбай да Вас, сталых падпісчыкаў газеты, і ўсіх, хто купляе яе ў шапіках: разам пашырым кола прыхільнікаў "Народнай Волі".

Прачыталі сённяшні нумар самі – захапіце газету на работу, глядзіш – пойдзе па руках, і хто-ніхто зацікавіцца, а Вы параіце пайсці на пошту і падпісацца.

Такім чынам "папрацуйце", калі ласка, з суседзямі, сваякамі… А калі збіраецеся да сябра ці сяброўкі, каб павіншаваць з днём нараджэння, то ў якасці падарунка ўручыце падпісны квіток на "Народную Волю".

Нагадаем: аформіць падпіску на газету "Народная Воля" можна ў любым паштовым аддзяленні. Калі гэта зрабіць да 26 мая, то ўжо з 1 чэрвеня адрасат будзе атрымліваць газету па месцы пражывання.




**"Народная Воля" – газета для народа!**

СТАЛА ВЯДОМА...

## У сакавіку прагандляваліся

Як паведаміў Нацыянальны статыстычны камітэт, адмоўнае сальда знешняга гандлю за сакавік павялічылася на 411 мільёнаў долараў і з пачатку года склала 825 мільёнаў "зялёных".

Асабліва дрэнна складваецца ў Беларусі гандаль з краінамі СНД. За студзень–сакавік адмоўнае сальда перавысіла 800 мільёнаў долараў.

**Сяргей ГУРСКІ.**

ЛИЧНОЕ

## Светлана Алексиевич купила новую квартиру и дачу

До сей поры Светлана Александровна жила в центре Минска, но в небольшой двухкомнатной квартире, из которой, как шутила она сама, ее постепенно выселяли книги. Теперь успешная писательница смогла позволить себе улучшить жилищные условия. Новый адрес мы не назовем, чтобы не спровоцировать ненужный ажиотаж, только скажем, что, как и прежняя, новая квартира Алексиевич выходит окнами на реку Свислочь. Но пока хозяйка туда не переехала – в квартире идет ремонт.

А вот на новой даче в Силичах она уже пила чай с друзьями. Ее прежний деревенский дом, где перебывал чуть ли не весь Союз белорусских писателей, был очень уютным гнездом, но без канализации и водопровода. Зато новый – со всеми удобствами и даже со скромным бассейном. И, кроме того, с большими, уже «готовыми», деревьями на участке. Все покупки были одобрены главным экспертом в ее семье – самой близкой подругой и человеком с безупречным вкусом писательницей Марией Войтешонок.

Собственно, многие лауреаты Нобелевской премии так и распоряжаются деньгами – улучшают свои жилищные условия, выплачивают кредит на жилье, тратят ее на образование своих детей. Лишь некоторые позволяют себе роскошь. Например, умерший в 2003 году экономист Франко Модильяни купил себе на нобелевские деньги яхту.

**Елена МОЛОЧКО.**

КУРСЫ ВАЛЮТ

## Долар здае пазіцыі?

Помніце тыя дні, калі курс долара дасягаў амаль 22.000 беларускіх рублёў? Але за пару апошніх месяцаў "зялёны" моцна здаў. Учора беларускі рубель зноў падняўся ў адносінах да долара. Курс апошняга знізіўся на 34 рублі – да 19.180 рублёў.

У той жа час курс еўра вырас на 55 рублёў і склаў 21.972 рублі.

**Ніна КІРЭЕВА.**

3 МАЯ ПОЛЬШЧА АДЗНАЧАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СВЯТА

## Першая ў Еўропе і другая ў свеце



**Ад рэдакцыі «Народнай Волі»**

Не зразумела, чаму мы, беларусы, не адзначаем гэтае вялікае свята. Рэч Паспалітая з'яўлялася федэрацыяй Кароны Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, якая ўзнікла ў выніку Люблінскай уніі ў 1569 годзе. Новае палітычнае аб'яднанне было найбуйнейшым у Еўропе. Часткай яго лічылася тэрыторыя сённяшняй Беларусі. Вось чаму наша краіна, як і Польшча і Літва, мае прамое дачыненне да з'яўлення Канстытуцыі 3 мая 1791 года.




3 мая 1791 года была прынята першая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай.

Гэта была першая канстытуцыя ў Еўропе і другая ў свеце пасля Канстытуцыі ЗША. Праз два дні пасля прыняцця Канстытуцыі Вялікім Сеймам дзень 3 мая быў прызнаны нацыянальным святам, якое пазней з-за захопу дзяржавы на доўгі час аказалася пад забаронай. Пазней, пасля набыцця Польшчай незалежнасці ў 1918 годзе, свята было адноўлена. Але пасля Другой сусветнай вайны ў 1946 годзе камуністычная ўлада зноў забараніла яго публічнае святкаванне, а спробы правядзення дэманстрацый былі задушаны сіламі міліцыі. У 1951 годзе Свята Канстытуцыі было афіцыйна адменена.

Сваё адраджэнне яно атрымала ў 1990 годзе, калі 3 Мая зноў стала афіцыйным нацыянальным святам Канстытуцыі Польшчы. У Варшаве ў гэты дзень праходзіць ваенны парад. Да помнікаў Невядомаму салдату па ўсёй краіне прыносяць вянкі і кветкі. Таксама праводзяцца канцэрты і разнастайныя мерапрыемствы. Людзі выходзяць на святочныя вуліцы ці накіроўваюцца на "маёўкі" на прыроду.

ВПЕРВЫЕ!

## Маэстро Анисимов вспомнил Шостаковича и Сталина

Впервые в Минске будет исполнена оратория Дмитрия Шостаковича «Песнь о лесах», которая была написана композитором в 1948 году, чтобы Сталин «простил его за ошибки». Концерт государственного симфонического оркестра под руководством маэстро Анисимова состоится в Белгосфилармонии 5 мая.

Как известно, один из самых страшных ударов был нанесен советской музыке в 1948 году: вышло знаменитое партийное постановление о формализме в искусстве, когда под прицелом оказались лучшие советские композиторы Прокофьев, Мясковский, Хачатурян, а также Шостакович. Яркие, известные личности, которые опасны потому, что думают по-своему. Однако в том же 1948-м Шостаковича «простили». Что произошло?

Во-первых, он публично признал свои ошибки. Во-вторых, написал «Песнь о лесах» – замечательную музыку, но с текстом, прославляющим Сталина. А также музыку к культовым фильмам «Падение Берлина» и «Встреча на Эльбе». Ну и, кроме того, менялась международная обстановка. Началась борьба за мир, для этого нужны были уважаемые в мире представители советской интеллигенции. Поэтому уже в конце 1948 года Сталину пришлось «простить» Шостаковича, чтобы послать его в числе делегатов в Америку на конференцию. Вскоре Шостакович получил за «Песнь о лесах» Сталинскую премию.

На концерте также прозвучит музыка Рахманинова и Чайковского.

**Виктория ДРОЗД.**

ЧУЛІ?

## Уладзімір Беражкоў працаўладкаваўся

Былы генеральны менеджар хакейнага «Дынама» і эксгалоўны рэдактар «Прессбола», які некалькі месяцаў правёў у СІЗА КДБ, на ўмовах дамовы падраду ўладкаваўся на працу ў Беларускую федэрацыю біятлона.

Прапанову аб працаўладкаванні ён атрымаў, як ні дзіўна, ад шэфа КДБ (ён жа кіраўнік БФБ) Валерыя Вакульчыка.

«*Пакуль не маецца на ўвазе нейкая канкрэтная пасада. Хутчэй, я назваў бы гэта напрамкам работы. Старшыня федэрацыі акрэсліў шэраг задач, у тым ліку стратэгічных, перспектыўных, актуальных. У ліку, напрыклад, самых бліжэйшых – адзін сур'ёзны стартап. Гэта стварэнне ў Беларусі ўнікальнага медыцынскага цэнтра па рэабілітацыі спартсменаў. Гэты працэс я як менеджар цяпер і курырую*», – пракаментаваў новы этап сваёй кар'еры **Уладзімір Беражкоў**.

Нагадаем: былы топ-менеджар ХК «Дынама» Уладзімір Беражкоў быў затрыманы ў жніўні 2015 года. Яму выставілі абвінавачанне ў завалоданні грашовымі сродкамі клуба ў суме 1 млрд 90 млн рублёў з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў (ч.4 арт.210 КК).

5 лютага старшыня СК Іван Наскевіч заявіў журналістам, што Беражкоў і Суботкін (*былы генеральны дырэктар хакейнага "Дынама"*) могуць быць памілаваны, бо кампенсавалі нанесеную шкоду.

Прыкладна месяц таму Уладзімір Беражкоў выйшаў на волю пад падпіску аб нявыездзе.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ШАШКІ

# Бліц-конкурс!

Яго зноў прапануе магілёўскі майстар **Дзмітрый Камчыцкі**. Ва ўсіх заданнях белыя пачынаюць і выйграюць. Пераможцу чакае прыз ад аўтара.



№1 **Белыя**: a3, a7, b6, c7, d6, f2, g3, h4 (8). **Чорныя**: b4, c3, c5, d2, d4, e5, f4, f6, g5, h2 (10).

№2 **Белыя**: a3, d4, e1, f2, h2, h4 (6). **Чорныя**: a7, b4, b6, c5, d6, d8, e7, f4, g3, h6 (10).

№3 **Белыя**: a7, b4, c5, f6, g5, g7 (6). **Чорныя**: a5, b2, d8, e3, e7, f2, h8 (7).

№4 **Белыя**: a3, a7, b6, c5, c7, f2, f4 (7). **Чорныя**: b4, c3, d2, d8, e7, f6, h2, h4, h6 (9).

№5 **Белыя**: a7, d2, d4, e3, e7 (5). **Чорныя**: b4, b6, c5, d6, f8, g3 g5, g7 (8).

## Госць з Латвіі

Вядомы чытачам нашай рубрыкі **Генадзь Андрэеў** (Латвія) прапануе свае новыя творы па міжнародных і рускіх шашках.

№6 **Белыя**: 44, 39, 34, 29, 30, 22, 24, 17, 19, 12, 14 (11).

**Чорныя**: 45, 37, 40, 35, 25, 16, 13, 8, 3 (9). 17, 9, 9, 40(25:43), 4(44), 50 x.

№7 **Белыя**: 48, 50, 39, 28, 21, 17, 19, 20, 14 (9). **Чорныя**: 37, 31, 26, 29, 22, 6, 8, 1, 3 (9). 42, 39, 12, 9, 3, 2 x.

№8 **Белыя**: b4, c3, c7, d2 (4). **Чорныя**: a5, b6, e5, g5 (4).

d8(d4**A**), h4, c3, d8, d2 x **A**(h4), e3(g3), h4(h2), f4, a7(g1), bc5 x.

## Супаставім рашэнні

"Народная Воля" ад 23.02.2016. – **№2** 43-38(43**A**), 36 x **A**(33), 3 x **№3** 17(26**A**), 38, 3 x **A**(21), 38, 2 x **Віталь Варушыла** прапануе такое пабочнае рашэнне 38, 49:19:2 x, але па правілах міжнародных шашак белыя павінны біць не 3, а 4 шашкі – 48:39:22:13:2 =.

**№10** e3, c5, b6, cd2, h2(g7), g3 x **№11** g3, h4, g3, f4, a1 x **№12** de7, c7, fe5, b2, g7, c3, a7(b4**A**), g3, e5, b8 x **A**(g1), c5 x.

У праблеме **№6 Віталь Варушыла** прапануе такі шлях да перамогі: 30, 40, 37(33), 16-1 x У дадзеным выпадку патрэбны больш падрабязны аналіз.

Першымі свае адказы даслалі **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Уладзімір Бандарык** (Лугавая Слабада Мінскага раёна).

## Дэбют аўтара

У нашай рубрыцы дэбютант – **Рыгор Краўцоў** з вёскі Рублеўск Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці.



№9 **Белыя**: 17, 19, 21, 22, 23, 26, 27, 34, 35, 40, 43, 44, 47, 48, 49 (15).

**Чорныя**: 1, 5, 6, 8, 9, 10, 11, 12, 16, 32, 33, 37, 38, 41, 45 (15).

14, 29, 42, 43, 7, 2, 46(14), 10, 43 x

№10 **Белыя**: 38, 46, 47, 48, 49, 50 (6). **Чорныя**: 23, 24, 25, 29, 33, 37 (6).

46-41(46), 41, 30, 50-44,33, 39 x

Новыя праблемы на 100-клетачнай дошцы прапануе барысаўскі кампазітар **Юрый Мурадаў**.

№11 **Белыя**: 11, 16, 21, 24, 25, 30, 33, 39, 43, 49, 50 (11).

**Чорныя**: 1, 3, 13, 15, 22, 23, 32, 34, 40, 42, 45 (11).

7, 17, 9, 49-44, 44, 40, 10, 14 x

№12 **Белыя**: 17, 21, 22, 27, 28, 31, 32, 33, 50 (9). **Чорныя**: 7, 8, 9, 12, 13, 20, 30, 36, 40 (9).

11, 18(23), 19, 22, 45, 34 x

№13 **Белыя**: 14, 19, 28, 32, 40, 41, 44, 45, 47, 49 (10).

**Чорныя**: 7, 8, 16, 18, 23, 26, 29, 30, 36, 37 (10).

10, 23, 42, 43, 35, 35 x 11, 1(10), 23(15), 37(20), 42(25), 48 x

№14 **Белыя**: 6, 17, 25, 29, 32, 34, 43, 44, 49 (9).

**Чорныя**: 11, 13, 14, 15, 18, 19, 31, 35, 41, 45 (10).

1, 23, 20, 30, 40, 39, 47 x

Свае лісты дасылайце на адрас: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі".

Электронны адрас рэдакцыі: saf20016@yandex.ru або shulga.checkers@gmail.com.

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ




# Дзіўны Васіль Кірыенка

*Неверагодны рэзананс сярод аматараў спорту і проста неабыякавых людзей выклікала выказванне ў СМІ вядомага беларускага велагоншчыка Васіля Кірыенкі пра тое, што "беларуская мова – мёртвая мова".*

*"Народная Воля" вырашыла звярнуцца наўпрост да Васіля, каб ён удакладніў сваю пазіцыю ў дачыненні да беларускай мовы, якую, як аказалася, не лічыць роднай.*

Васіль Кірыенка – адзін з самых вядомых беларускіх прафесіянальных велагоншчыкаў. Чэмпіён свету, пераможца першых Еўрапейскіх гульняў і леташняй прэстыжнай гонкі «Джыра д'Італія»… Спартсмен у асноўным жыве ў Іспаніі, але зараз падчас паўзы паміж стартамі прыехаў у Беларусь. І амаль адразу ж патрапіў пад крытыку за свае выказванні пра беларускую мову.

*«У мяне супярэчлівае стаўленне да беларускай мовы*, – працытавала **Васіля Кірыенку** Радыё Свабода. – *Справа ў тым, што амаль увесь час я знаходжуся ў Іспаніі, акурат на мяжы з Краінай Баскаў. Яна афіцыйна не існуе як адміністрацыйная адзінка, але жыхары лічаць інакш: усяляк адмяжоўваюцца ад іспанскай апекі, гавораць на сваёй мове. Дык вось мне цікавей было б ведаць іхнюю мову эўскера, чым сваю, беларускую. Чаму? Таму што, прабачце, можа, каго пакрыўджу, але беларуская мова – не жывая. Гэта мёртвая мова, на якой практычна ніхто не размаўляе. Я лічу, што яе ў прымусовым парадку навязваюць, напрыклад, прымушаюць вывучаць маю дачку. Я, па вялікім рахунку, супраць гэтага. І калі мяне запытаюць, ці трэба так рабіць, адкажу: не! Я некалі таксама вывучаў мову, нават пяцёркі меў, але пасля школы яна мне нідзе не спатрэбілася! Хіба з палякамі кантактаваў, бо па-беларуску разумеюць, а больш гэтае веданне ніякай практычнай карысці не дало. Спрабаваць ажывіць нежывое – лішняе».*

Спартсмен пачуў вельмі шмат крытыкі ў свой адрас, але ад сваёй пазіцыі не адступаецца.

– Гляджу, што народ актыўна абмяркоўвае мае словы, пачуў вельмі шмат абраз у свой адрас, – кажа мне **Васіль КІРЫЕНКА**. – Але ўсім трэба разумець, што я проста выказаў уласнае меркаванне. Па-першае, я ж нікому не навязваю яго. Па-другое, ніхто тым таварышам, якія мяне крытыкуюць, не забараняе размаўляць на мове і папулярызаваць яе. І калі я наступным разам прыеду дадому і ўбачу, што ўсе размаўляюць на беларускай мове, то і сам буду проста вымушаны размаўляць на ёй. Сёння пачуў крытыку нават ад беларускамоўнай іспанкі, хаця наўрад ці шараговыя іспанцы ведаюць, дзе знаходзіцца Беларусь. У нас жа маладая дзяржава.

**– Зараз у краіне, наадварот, усё большая цікавасць да беларускай мовы, да яе папулярызацыі далучаюцца многія вядомыя спартсмены. А вы кажаце, што "спрабаваць ажывіць нежывое – лішняе»…**

– Добра, я рады за гэтых людзей. Але няўжо ў мяне не можа быць асабістага меркавання?.. Дарэчы, мая дачка на мінулым тыдні дзясятку атрымала па беларускай мове. Можа быць, усё і будзе нармальна, калі гэтай мовай будуць карыстацца. А я прывёў проста факты са свайго досведу. І за свае 34 поўныя гады нідзе гэтую мову ў зносінах не сустракаў.

А што тычыцца баскаў… У мяне ў камандзе чатыры іспанскія гоншчыкі. З іх тры размаўляюць на мове баскаў, а чацвёрты – не, хаця жыве каля Більбао. І ёсць доктар баск. Са мной ён размаўляе на іспанскай мове, а са сваімі – на эўскера. І гэта без прымусу. Хто хоча размаўляць на сваёй мове, той і размаўляе. Але гэта заслуга баскаў, што яны пранеслі сваю мову праз стагоддзі і нясуць яе далей.

А я нарадзіўся пад тым сцягам, які ў нас ёсць сёння, і ўсё жыццё размаўляў на рускай мове. І бацькі таксама на ёй размаўлялі. Таму я і лічу, што мая родная мова – руская. Гэта і ёсць мая матчына мова.

**– Дзіўна чуць ад беларуса, што яго матчына мова – руская…**

– Я хачу сказаць, што ніхто ў нас мову не знішчае, як некаторыя кажуць. У нас жа дзве дзяржаўныя мовы. Няхай спяваюць песні на мове, пішуць вершы, але, паўтаруся, я беларускай мовай нідзе не карыстаюся. І мой патрыятызм не залежыць ад таго, ведаю мову альбо не. Гэтая справа наогул можа раз'ядноўваць людзей. Вы ж паглядзіце, якія спрэчкі пачаліся на форумах пасля таго, як працытавалі мае словы. У некаторых наогул нейкая непрыхаваная агрэсія разам з абразамі. Я мог бы нават звярнуцца за некаторыя абразы ў суд, але буду вышэй за тых, хто на мяне накінуўся. Пераступіў і пайшоў.

**– Але ж вы на самай справе закранулі пачуцці многіх людзей, якія шануюць і паважаюць беларускую мову. Ці не так?**

– Калі пачытаць мае словы, то перад тым, як выказацца, я сказаў: прабачце, калі некага пакрыўджу. За што ж мяне пасля гэтага абражаць? Я ж не абражаў ні мову, ні людзей. Проста лічу, што беларуская мова – мёртвая, гэта мой пункт погляду. З дзяцінства на ёй амаль ніхто з беларусаў не размаўляе. Гэта ж аб'ектыўная рэальнасць. А то піша мне ў сацыяльных сетках адзін незадаволены таварыш з Варшавы… Чаго ты там сядзіш – у Варшаве? Прыязджай дадому і развівай беларускую мову, калі ёсць жаданне. Альбо абураюцца маімі словамі, а самі каментарыі пішуць на рускай мове. Што ж ты за змагар такі, калі сам прыклад не паказваеш? Вось пра што трэба казаць. У нас многія могуць толькі языком малоць, а на справе нічога самі не робяць. Вось і ўся іх барацьба.

**– Можа, зараз пасля таго, што давялося выслухаць у свой адрас, у вас усё ж такі з'явіцца жаданне вывучыць беларускую мову?**

– Я яе вывучаў у школе, але ўжо паспеў забыць. У мяне па рускай мове была чацвёрка, а па беларускай – пяць… І пасля публікацыі сустракаўся з многімі людзьмі, якія мне кажуць: "Вася, не бяры да галавы. Дзе ты бачыў у Беларусі беларускую мову?"

**– Вы лічыце, што гэта нармальная сітуацыя?**

– Я лічу, што мова – гэта асабістае. Яе не трэба разглядаць як зброю ці прадмет нейкага гонару. Мова – гэта сродак зносін людзей.

**– Але ж вы самі бачыце, з якой пяшчотай тыя ж баскі ставяцца да сваёй роднай мовы, як берагуць яе і нясуць, як вы кажаце, праз стагоддзі.**

– У іх там зусім іншая сітуацыя… У нас вунь тавары ў Польшчы і Літве танныя – усе пруць туды. У Расіі з-за крызісу беларусам стала больш выгадна купляць машыны – кінуліся за машынамі. І тыя, хто за беларускую мову, і тыя, хто за рускую. А баскі – яны патрыёты. У іх ёсць свае тавары, яны шануюць сваю культуру і мову.

**– Дык чаму нам не браць прыклад з баскаў?**

– Бярыце. І кожны павінен пачаць са сваёй кватэры, са сваёй сям'і і з сябе. Ды і мова тут не галоўнае. Напрыклад, мне камфортна размаўляць на рускай мове, камусьці – на беларускай. Што тут дрэннага? Самі рабіце выбар.

Дарэчы, у Бразіліі людзі размаўляюць на партугальскай мове, а ў Швейцарыі наогул шматмоўе. Я быў у Лугана, там нямецкую мову не ведаюць – і ніхто нікога не абвінавачвае. Ніхто ні ў кога не адымае права карыстацца той мовай, якая яму падабаецца.

***

*Я палічыў, што далей спрачацца з Васілём Кірыенкам бессэнсоўна. Што і казаць, дзіўны ён чалавек...*

**Алесь СІВЫ.**

ФУТБОЛ

# БАТЭ набірае абароты

*У пятым туры чэмпіянату краіны па футболе барысаўская каманда ўмацавала свае пазіцыі.*

Вось вынікі 5-га тура: "Белшына" (Бабруйск) – БАТЭ (Барысаў) – 2:3, "Дынама" (Мінск) – "Слуцк" – 1:1, "Нёман" (Гродна) – "Мінск" – 0:1, "Шахцёр" (Салігорск) – "Нафтан" (Наваполацк) – 2:0, "Граніт" (Мікашэвічы) – "Гарадзея" – 0:0, "Іслач" (Мінскі раён) – "Дынама" (Брэст) – 2:4, "Славія" (Мазыр) – "Віцебск" – 0:4, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Крумкачы" – 3:0.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 5 | 4 | 1 | 0 | 15–8 | 13 |
| 2. Мінск | 5 | 3 | 1 | 1 | 8–4 | 10 |
| 3. Іслач | 5 | 3 | 1 | 1 | 7–5 | 10 |
| 4. Дынама (Мн) | 5 | 2 | 3 | 0 | 8–4 | 9 |
| 5. Тарпеда-БелАЗ | 5 | 2 | 2 | 1 | 7–5 | 8 |
| 6. Крумкачы | 5 | 2 | 2 | 1 | 4–5 | 8 |
| 7. Віцебск | 5 | 2 | 1 | 2 | 6–3 | 7 |
| 8. Шахцёр | 5 | 2 | 1 | 2 | 3–3 | 7 |
| 9. Дынама (Бр) | 5 | 2 | 0 | 3 | 9–13 | 6 |
| 10. Граніт | 5 | 1 | 3 | 1 | 5–4 | 6 |
| 11. Слуцк | 5 | 1 | 3 | 1 | 4–5 | 6 |
| 12. Белшына | 5 | 1 | 2 | 2 | 8–8 | 5 |
| 13. Гарадзея | 5 | 1 | 2 | 2 | 2–3 | 5 |
| 14. Славія | 5 | 1 | 1 | 3 | 3–9 | 4 |
| 15. Нёман | 5 | 0 | 2 | 3 | 2–6 | 2 |
| 16. Нафтан | 5 | 0 | 1 | 4 | 1–7 | 1 |



**P.S.** *У нумары за 26 красавіка з-за тэхнічнага збою пры вёрстцы газетнай паласы ў турнірнай табліцы "з'ехалі" радкі, а таму яна глядзелася крыху недарэчна. Прыносім прабачэнні нашым чытачам.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШАЙБУ!

# В Россию – с надеждой




*С 6 по 22 мая в Москве и Санкт-Петербурге пройдет чемпионат мира по хоккею.*

Как известно, сборной Беларуси на чемпионате мира в России в групповом раунде предстоит сразиться с национальными командами Канады, Финляндии, США, Словакии, Франции, Германии и Венгрии. Эта группа сыграет в Санкт-Петербурге, который уже во второй раз принимает чемпионат мира по хоккею.

По итогам предварительного этапа в четвертьфинал выходят по 4 лучшие команды каждой группы. Сборные, которые финишируют последними в своих группах, потеряют прописку в элитном дивизионе. Правда, это правило не распространяется сразу на двух соперников сборной Беларуси по группе В – команды Германии и Франции, которые станут хозяйками чемпионата мира 2017 года и имеют бронь от вылета. Если они замкнут турнирную таблицу, то элитную прописку утратит команда, занявшая 6-е место среди 8 команд.

Напомним, на минувшем чемпионате мира–2015 в Чехии белорусские хоккеисты второй раз подряд вышли в четвертьфинал и заняли итоговое 7-е место.

КОМПЕТЕНТНО

# Андрей ГУСОВ: «Все нацеливаются на медали…»



*Известный белорусский хоккейный специалист – о шансе белорусских хоккеистов повторить прошлогодний успех.*

– Мне, как и многим болельщикам, очень понравилась игра нашей сборной на первенстве в прошлом году, – говорит наш собеседник. – Сейчас, судя по тем высказываниям тренеров и игроков, которые звучат в последнее время, все вообще нацеливаются не медали чемпионата. Но лично мне как специалисту хочется просто увидеть красивую яркую игру в исполнении наших ребят. Интересно будет посмотреть и тактические моменты, которые тренерский штаб прививает команде. Так что будем болеть!

**– Сможет ли показать себя на чемпионате молодежь или вся надежда на «стариков»?**

– Судя по спаррингам, некоторые молодые хоккеисты из белорусской Экстралиги выглядят не хуже тех, кто играет в Континентальной хоккейной лиге. Но важно, в каком психологическом состоянии парни подойдут к играм. Потому что товарищеские матчи – это одно, а чемпионат мира – совершенно другое.

**– Сборную Беларуси ждет очень сложный стартовый отрезок. В первых четырех матчах предстоит встретиться сразу с достаточно сильными соперниками – финнами, американцами, канадцами и словаками.**

– Сложно сказать, хорошо это или плохо. С одной стороны, не будет расслабленности, потому что придется играть с топовыми командами. Но хочу сказать, что и со стороны тех же канадцев или американцев уже не будет шапкозакидательского настроения в отношении белорусов. Мы уже выигрывали у сборной США, так что все знают возможности белорусской команды. Недооценки не будет – это точно. С другой стороны, есть опасения, что четыре сложных матча могут физически подкосить команду. А после этого нужно будет еще играть и желательно выиграть у немцев, французов и венгров. Будем надеяться, что функционально ребята подготовятся неплохо.

**– Есть у нас шанс снова попасть в восьмерку лучших?**

– Так мы уже последние два года используем этот шанс. Значит, и сейчас все возможно.

**– На ваш взгляд, уровень белорусского хоккея растет?**

– Об уровне говорит нахождение нашей сборной в десятке сильнейших сборных мира. Это, безусловно, показатель. И я всегда говорил, что сильная сборная должна всегда опираться на сильный национальный чемпионат. Нам нужно 10–12 уверенных клубов. Сильных и в плане подготовки резерва, и в финансовом плане. Посмотрите на чемпионаты Швеции, Финляндии, Швейцарии… Нужно, чтобы от Беларуси не одна «Юность» играла в Лиге чемпионов, а три-четыре команды. Тогда у нас будет уровень и сумасшедшая конкуренция.

**– Но базовым клубом сборной многие считают минское «Динамо».**

– Я бы так не утверждал. Подсчитайте, сколько игроков из этого базового клуба не поедет на чемпионат по разным причинам. В прошлом году в Чехию поехали ребята из Экстралиги, а хоккеисты из базового клуба сборной отдыхали дома и смотрели матчи у телевизора. Конкуренцию никто не отменял. А в сборной должны играть лучшие.

## На кого ставят букмекеры?

Сейчас в линиях букмекерских контор сборная России идет фаворитом – вероятность ее победы в турнире оценивается наименьшим коэффициентом 2,75. Это значит, что, если сборная России действительно станет чемпионом мира по хоккею, поставившие на такой исход получат от букмекера выплату, превышающую размер ставки в 2,75 раза.

Совсем немного в своих шансах отстает сборная Канады – вероятность ее победы букмекеры оценивают котировкой 3,00. Напомним, сейчас действующими чемпионами мира по хоккею являются именно канадцы.

Заметно снизился в последнее время и коэффициент на победу сборной Швеции – теперь он составляет только 4,00.

У других национальных команд, по мнению букмекеров, значительно меньше шансов: вероятность победы Финляндии оценивается коэффициентом 7,00, на победу сборной Чехии предложена котировка 9,00.

Половину участников чемпионата мира букмекеры не видят в числе возможных претендентов на победу – вероятность их триумфа оценена аналитиками коэффициентом выше 100. **Среди них и сборная Беларуси – ставки на победу команды принимаются по коэффициенту 101**.

Предлагая ставки на чемпионат мира по хоккею, букмекеры уже сейчас выставили коэффициенты и на первые матчи группового этапа. Так, сборная Беларуси сыграет свой первый матч с командой из Финляндии: в этой игре команде Дэйва Льюиса отведена роль аутсайдера – победа Беларуси котируется по 6,5, тогда как на победу сборной Финляндии идет совсем низкий коэффициент 1,33.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Смотрим хоккей!

Как сообщили в Белтелерадиокомпании, все-все матчи сборной Беларуси на стадии группового раунда и в случае выхода в плей-офф чемпионата мира по хоккею будет транслировать телеканал «Беларусь 1».

Также во время чемпионата на главном телеканале страны каждый вечер можно будет увидеть подробный обзор прошедших матчей.

### Календарь матчей сборной Беларуси на групповой стадии ЧМ-2016:

**6 мая** – Беларусь–Финляндия (начало в 20.15)
**7 мая** – Беларусь–США (20.15)
**9 мая** – Беларусь–Канада (16.15)
**11 мая** – Беларусь–Словакия (16.15)
**13 мая** – Беларусь–Германия (20.15)
**14 мая** – Беларусь–Венгрия (16.15)
**17 мая** – Беларусь–Франция (16.15)

МНЕНИЕ

## Верим!

Накануне чемпионата мира по хоккею наверняка наши многочисленные болельщики интересуются, как готовится сборная и ее ведущие игроки к предстоящим матчам.

Команда продолжает подготовку под руководством Дэйва Льюиса, проводит сборы и товарищеские матчи, но, конечно, по ним нельзя судить о ее настоящей боевой форме. Вот что говорят о ходе подготовки некоторые кандидаты в сборную Беларуси.

**Евгений Ногачев:** *«Пока катаемся под руководством Олега Антоненко и Андрея Мезина. Ждем приезда главного тренера».*

**Евгений Ковыршин:** *«Жестких тренировок пока нет. Мы спокойно поддерживаем свои игровые кондиции и отрабатываем некоторые аспекты на льду».*

Время до начала чемпионата еще есть. Конечно, жаль, что некоторые ведущие игроки травмированы, а поэтому состав сборной пока далек от оптимального. И тут, наверное, должен сказаться опыт главного тренера.

Что касается наших хоккеистов, то убежден, что они патриоты и настоящие бойцы, которые горят желанием сыграть за Беларусь. Будем болеть и верить в мужество наших отчаянных парней!

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, болельщик с 60-летним стажем.**

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16034

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 2.05.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26 070 экз. Заказ № 1716